## Ваенная прауда.*)

Летам у ліпні было гэта,
Як цары усяго сьвета
Здумалі вайну вяліку,
Сабралі людзей бяз ліку.
Ня далі жыта нам пажаць,—
Прыказалі ваяваць.
Пашло па двух, па трох з хаты
У праклятые салдаты.
Там далі стрэльбы, шынэлі
I у зяленае адз'лі.
Началося і вучэньне
Гасудару увялічэньне
I яго сямьі вялікай
I тэй таупе сытай, дзікай,
Што убіралася у мундзіры,
А звалі іх—камандзіры.
Пасьля вучылі іх страляць,
Людзей, братоу як забіваць.
Называлі іх урагамі.
Уміралі людзі стагамі,
То ад куляу, то ад газу
Памнога тысяч разу.
Знарады так і гудзелі...
Мы у Прусію ляцелі.
Было у нас усе—і каша,
I усюды брала наша.
Узята Галіцыя і Львова,
Пірамышль крэпасьць—гатова.
Бліскі быу канец пабеды,
Да нашліся Мясаеды:
Сталі дабро таргаваць
Ды Расію прадаваць.
Ім у помач Сухамлінау—
Каб навекі ен згінуу!—
Ня прыслау ен нам знарадау,—
Зьбіліся мы з толку, з ладу.
Немцы жарэць, аж курыць,—
Нам нечым пушкі набіць.
Асталося адно спасеньне—
Кінуцца у адступленьне.
Ляцелі, як у вырай гусі,
Праз Польшчу да Беларусі.
А уся Польшча крывей зьліта.
Вайна прайграна ды й квіта!
Бо хоць у Беларусі стаялі,
Але ужо мала ваявалі.
Урэшце прышла пара,
Што скінулі мы цара
Ды давай думаць аб долі:
Ці ваяваць ужо нам болі?
Можа лепей памірыцца,
Бо біць бліжніх не гадзіцца...

---

Мы сталі усе панамі,—
Ня было старшых над намі.
Як хто хацеу, так і жыу
I што уздумау, гаварыу.
А ужо аб зямлі і волі
Было гутарак найболі,
Нават глухая Параша
Цьвярдзіла, што усе наша.
Зямлю, лясы і двары
Бярэце, гаспадары!
I так з нашай гаспадаркі
Дома сталі адны сваркі.
А скажу прауду вам, брацьця,
Што нам, як старой Агапе,
Як у хаце хлеба ня стала,
Гаспадыняй яна стала;
Ня мела кашулі для унучкі,
Ні сабе добрай анучкі.
Так і у нас цяпер на полі—
Куча адохлых ляжыць коні.
Сталі людзям каней дарыць
Да і у іх нечым карміць.
Мала стала людзям есьці,—
Паехалі да Бярэсьці.
Каб скарэй вайну канчаць,—
Надаела ваяваць.
З пачатку добра было толькі,
Як скасавалі манапольку.
Хоць мучыла нас, як трэба,—
На зямлі ужо стало небо.
Ці у будні дзець, ці у нядзелю,
Ціха у хатах сядзелі.
Ня чуць было шуму, крыку
I гэтых пьяніцау бяз ліку,
Што бьюцца, крадуць і рабуюць,
Па начох людзей мардуюць.
Усякі глядзеу і дзівіуся,
Як наш народ пераманіуся.
Для чарцей сталі сухоты:
Без гарэлкі няма работы.
Бо бяз гэтай подлай гары
Ці будзе у пекле кары?
Злые чэрці дзяруць глоткі,
Што у Расіі няма водкі.
Сталі думаць, гаварыць,—
Навучылі баб квасок варыць.
Бабы кумку-квас варылі,
Муку і цукар глумілі.
А падмовілі Сымонку,
Каб ім ціснуу самагонку.
Пашла у гору самагонка,—
Разбагацеу наш Сымонка.
Кумку ен ім прадавау,
Сто рублеу за кварту брау.
Кучу грошай наскладау.
Муку і жыто перагнау.
„Хлеба, тата"—крычаць дзеці.
А тут мышы дохнуць у клеці.
Жонка голаву скрабе:
Не дастаць мукі нігдзе.
. . . . . . . *) пацехі
Чуць не паузлазілі на стрэхі.
Нават сказау Люцыпар сам:
„За самагонку мідаль дам,
Бо каб ня гэта самагонка,
Было-б у нас у пекле тонка;
А цяпер—будзе гасьцей,
Тых што пьюць яе часьцей,
Бо з самагонкі і жанатыя
Прост да дзеукі ідзе у сваты.
Праз яе крадуць, махлююць,
Рэжуць, паляць і мардуюць.
Словам, дзе яно бярэцца?
Нам заусюды удаецца."
У канцы сталі мы мірыцца
Ды дадому расхадзіцца.
Дзеукі надта пасмутнелі,
Што выйсьці замуж не пасьпелі,
Упярод абы хацела,
Каждая жаніха мела.
Трудна было адхрысьціцца,
Так усякі лез жаніцца.
А хто лепей ухітрыуся,
Той два-тры разы жаніуся.
Усе везьлі у тые краі,
Дзе жывецца, як у раі,
Нічога ня трэба рабіць,
А па-панску целля жыць.
Прауда, дзеукі тры галочкі
Насілі крамные сарочкі.
У руках работы ня мелі,
А семечкі толькі елі,
Задзіралі уверх галовы,
Навучыліся чужой мовы;
Часта ігралі у карты,
Толькі й чууся сьмех і жарты.
Хоць вясковые цяцеры
Думалі, што ахвіцэры
Ім за мужау астануцца,—
Бо жартуюць і сьмяюцца,—
Але адны асталіся,
Бо розумам ня зышліся.
Усе перад тэй нялзелі
Скарэй ад нас уляцелі.
Асталіся нашы Манькі,
Нашы Зосі, нашы Дарkі,
Асталіся і Агаткі,
Цьубіраные у палаткі.
Хоць не забылі яшчэ мовы,
Але баляць ім галовы.
I не аднэй можа к вясне
Бацян нешта прынясе.
I просе Бога не адна,
Каб ізноу прышла вайна.

**Баутручок.**

*) Гэты радок отраціуся.

*) Гэты верш ходзіць у народзе у рукапісах. Рэдакцыя идтрымала яго ад свайго знаемага (Р. Д—го) з-пад Радашковіч. Аутар схавау сябе пад псеудонімам „Баутручок".

*Рэдактар-выдавец*
*Яд. ЛУЦЭВІЧ.*



З дазв. вайсков. цэнзуры № 50, 20/XII.
Менск. Друкарня Інвалідау.